# ЯК ЛАТАЦЬ ПАНЧОХІ.

Амаль ня кожны вечар даводзіцца маткам латаць альбо зашываць панчохі. А калі не зашыюць, дык дзеці ходзяць і ў падраных, ад гэтага рвуць іх яшчэ больш. Праўда, некаторыя дзяўчаткі самі латаюць сабе панчохі, але яшчэ многа ёсьць дзяўчатак (а пра хлопцаў тут няма чаго і ўспамінаць), якія і ня ведаюць, як за гэту справу ўзяцца, як направіць свае панчохі.

А між тым гэта вельмі проста. Ня трэба толькі запушчаць да таго, пакуль зьявяцца вялікія дзіркі.

Вось пагэтаму невялікаму паказаньню кожны зможа залатаць сабе панчохі.

Для таго, каб залатаць панчоху, трэба дастаць даволі тоўстую нітку (трэба, каб яна толькі прайшла праз вушка іголкі), іголку і драўляную ложку альбо так якую-небудзь круглую выгнутую і цьвёрдую рэч.

Драўляная ложка ўстаўляецца ў панчоху пад дзірку так, каб панчоха была на выгнутым баку ложкі. Цяпер іголкай з ніткай акуратна падбіраеце ўсю дзірку




кругом, увесь час наперад іголкаю. Калі дзірка абведзена кругом і ніткаю зачэплены ўсе петлі, ад якіх панчоха можа пачаць раскідацца, трэба трошкі сьцягнуць нітку, але ня зусім моцна. Дзірка трохі паменшыцца. Цяпер пачынаецца самае латаньне. З аднаго боку дзіркі на другі, уздоўж дзіркі, чапляючы нітку за самыя канцы дзіркі, стаўце раўналежна нітکі блізка адна ад другой.




Калі імі будзе запоўнена ўся дзірка, перавядзеце іголку на другі бок і ў шырыню дзіркі рабеце так,—забіраючы іголкай першую нітку, пакідайце другую пад нізам, трэцюю нітку зноў забірайце і так далей. Калі дойдзеце да другога боку, зачапеце за край дзіркі і пачынайце тое самае ў адваротным парадку гэта значыць тая нітка, якая была зьверху іголкі, пападае пад ніз, а быўшая пад нізом падымаецца ўверх.

Калі так запоўнена ўся дзірка, латаньне скончана, і ў вас будзе панчоха гатова, тады і можаце надзяваць яе на нагу.

---

### ЗЬМЕСТ



---


Рэдколегія: АДЗІНЕЦ М., БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., ЯКІМОВІЧ А.

Адказны рэдактар А. ПЯКАРЧЫК.

*Год выданьня 4-ы.* Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!




**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 4 ЛЮТЫ 1928 г.**

# ДЗЕНЬ ПТУШАК.

Цяпер усякаму піонэру, вучню добра вядома, што птушкі—сябры чалавека; іх трэба ахоўваць. Птушкі зьяўляюцца тымі дармовымі і ахвотнымі вартаўнікамі нашых палёў і лясоў, якія старанна вартуюць іх ад нападаў усялякіх шкоднікаў.

Ахова птушак у нас пастаўлена яшчэ кепска. Хто ня ведае прыкладаў разбурэньня гнёздаў дзецьмі, лоўлі і зьнішчэньня птушак? А такіх ганебных прыкладаў у нас не павінна быць. Нам трэба навучыцца любіць птушак, а ня зьнішчаць іх.

Другім здаецца, што зьнішчыць птушку, разбурыць яе гняздо—гэта няма ніякага ўрону для чалавека. Будзем помніць, што адна птушка з сваімі дзецьмі за лета можа зьнішчыць 6—7 тысяч штук шкоднікаў. Часам некалькі сініц у 3—5 дзён абчышчаюць цэлую яблыню альбо грушу ад вусяніц, якія змаглі-б аб'есьці ўсё лісьцё.

Справа піонэрскіх атрадаў, школ, гурткоў юнатаў пры ўдзеле настаўнікаў, комсамольцаў растлумачыць усім дзецям шкоднасьць зьнішчэньня гэтых нашых мілых сяброў птушак, узяцца за прываблівацьне іх. Гэта будзе досыць карысна для нашай сельскай гаспадаркі.

Перад СССР цяпер стаіць вялікая задача—узьняць сельскую гаспадарку. Ахова птушак—гэта адна з частак гэтай работы.

Адсюль наша задача—абвясьціць вайну чарвяку. Для гэтага давайце мабілізуем птушак, забясьпечым іх хаткамі, прывабім іх бліжэй да сябе,—яны за гэта зробяць вялікую паслугу садоўніцтву, паляводзтву, лесаводзтву, яны абароняць ад пагібелі шмат тысяч пудоў хлеба.

Вось чаму з 18 па 25 сакавіка піонэрская організацыя і праводзіць па ўсім Саюзе „ДЗЕНЬ ПТУШАК".

Кожны хлопчык, кожная дзяўчынка, якія прымуць удзел у правядзеньні „Дню птушак"—зробяць вялікую грамадзка-карысную работу.

Прываблівайце і ахоўвайце карысных птушак!

Будзьце сябрамі сваіх сяброў птушак!





# Не пашанцавала

Апавяданьне С. Баранава. Малюнкі Вало.

1.

Да нас вельмі часта прыходзіць дзядзька Антось. Ён прыходзіць вечарамі. Садзіцца каля стала, дастае люльку з доўгім цыбуком, дастае скураны капшук і зьвяртаецца да майго бацькі:

— Закурым, пане суседзе? Закурвай!

І яны кураць. А я гляджу, седзячы на прымурку, ды разважаю. Ого, шмат аб чым я разважаю!

Калі я гляджу на дзядзьку Андрэя, на яго люльку, дык я ўжо загадзя ўяўляю ў сваёй асобе ўсяго дзядзьку, нават да кропелек. Я нават сьцішка накручваю сабе нібы-то вусы, бо ў дзядзькі Андрэя, яны аж зьвісаюць. Я цяпер раблюся сталым, вялікім. Так, вялікім, настаяшчым мужчынам. Дзеля гэтага я не падкручваю ног, седзячы на прымурку, а апускаю іх. Хоць мне трохі і халаднавата ў голыя лыткі, але... Я падпіраю падбародак рукой,—зусім як дзядзька Андрэй.

У мяне яшчэ толькі адзін недахоп. Самы галоўны, можна сказаць. Але праходзіць момант, і ў маіх думках ўсялякія недахопы прападаюць. Загадзя ўжо радуюся я, што з заўтрашняга дню буду з усімі „дахопамі“, буду настаяшчым мужчынам. Гэткім, як дзядзька Андрэй.

2.

Досьвіткі. Зімнія досьвіткі, у якія бывае халаднавата ў хаце, у якія маці ня паліць лямпы, а каб было дзе пагрэцца—раскладае на камінку смалякі.

Маці досьвіткамі ўстае раней,—прадзе кужаль і нешта, пад бурканьне шпулі, мармыча сабе пад нос. Я, як звычайна, сплю яшчэ ў гэты час, але сёньня... хіба я магу спаць сёньня, пасьле таго, калі ў маёй галаве цэлы вархал думак?. Не, я не магу, і не засну!

— Чаго-ж ты гэтак рана успароўся?—кажа матка,—спаў-бы, сынок...

Але я заяўляю, што сёньня я неяк выбіўся са сну.

У мяне ўжо ёсьць клопат.

Вось што значыць быць сталым, вялікім...

Абуўшыся, я апранаю матчыну капоту—яна мне якраз. Рукавы толькі даўгаваты. Але я іх закасваю ў некалькі столак, адзяю бацькаву лямцоўку і іду на двор.

Некалькі хвілін я на дварэ ў цёмных досьвітках. Мяне ніхто ня бачыць. Ціха на дварэ. Певень недзе пракукарэкаў толькі. Адліга: з капяжоў капае.

І вось ізноў я ў хаце. Як скрозь туман, бачу я цяпер матку, смалякі, якія чамусьці падскакваюць на комінку. Я бачу, як круціцца ўся хата. Сьцены, здаецца, зусім насоўваюцца на мяне, рушацца. А калаўрот, хоць яго падножак і варушыць матка, здаецца стаіць на месцы. Я стаю. Але як я стаю?—на галаве.

Бацька ўстаў з пасьцелі ды абуваецца. Ён таксама круціцца разам з сьценамі. Чаго яны круцяцца? Мяне бярэ сьмяхоцьце, гледзячы на гэты цуд. Але што гэта са мною? Мне неяк дрэнна на нутры—нудзіць. Я патрошку глытаю сьліну, але яе так шмат, што я плюю, вядома, плюю, каб не заўважыў бацька.

Ой, каб гэта ды не пры сьвятле смалякоў, якія падскакваюць... Каб гэта ды ў бацькі ня былі заспаныя вочы?.. Каб... Але я толькі сам ведаю, што са мною. Я ведаю, што з сёнешняга дня... О-го, якім я буду з сёнешняга дня!

3.

І вышла яно зусім проста, як і трэ' было-б чакаць. Але хіба я ня ведаў наперад, што ў мяне ёсьць добрая матка? О-го, мая мама! Яна ўжо ня пусьціць мяне ў бацькаву крыўду.

— Ну, дык хто-ж гэта апаражніў мой капшук?—зьвяртаецца бацька да маткі.

— Хто апаражніў,—кідае ён наўскасяк левым вокам на мяне, калі я цяпер, седзячы за сталом, мажу гарачы блін тлустасьцю з шчарбатага збанка ды шчыплю гэты блін як ні ў чым ня бывала.

— Вось, ты можа ня памятаеш ці быў тутун у капшуку,—разважае матка, скідаючы з скаварады сьвежы блін ды зноў падмазваючы яе дно сьвежым здорам.

— Як гэта „ня памятуеш“,—кажа бацька,—калі ўчора насыпаў, а ён за ноч, як камфора, растаў. Ці ня новы курэц зьявіўся?—І ўжо не адно, а абодва бацькавы вокі глядзяць на мой, трохі пачырванеўшы, твар.

— А ну, Сенечка сынок(гэта да мяне), кажы, ты выбраў мой тутун? — усхамянуўся бацька, і ў маіх вушах раптам празьвінеў дробненькі знаёмы гук спражкі ад шырокай бацькавай папругі.

— Вось-бок: чаго ты прычапіўся да дзіцяці,—падыходзіць матка,—які табе курэц?

Але матчына слова „да дзіцяці“, як вадою абліває мяне з ног да галавы.

Лепш няхай-бы ўжо драпаў маё нутро знаёмы гук спражкі. Нашто яна гэта кажа?

І справа канчаецца так: на гэты раз матка абараняе маю „нявіноўнасьць“. У гэты дзень я куру ў нашым новым зрубе можа трыццатую папяросу. К вечару я ўжо як мае быць куру—пускаю рэдзенькія пасмы дыму, нават праз нос. Мяне болей ўжо ня нудзіць.

І я цяпер, з сёнешняга дня, зусім гэтакі, як дзядзька Андрэй.

4.

Прайшло два дні. Я ўжо куру як мае быць. Я ўцягнуўся—прывык, можна сказаць. У мяне ў зрубе за дошкамі, што ляжаць для сталяркі, схаваны тутун, папера і запалкі. Як толькі захочацца мне курыць, дык я зразу-ж адзяюся, выходжу з хаты—іду ў зруб.

— О-го: гэта прывычка,—разважаю я цяпер, курачы ў зрубе,—каб і захацеў адвыкнуць, дык нічога.

Адным словам, няхай яно цяміцца з гэтаю прывычкаю!

— Што гэта ты нешта перхаеш?—пытае ў мяне неяк маці,—ці не прастыў ты, сынок, бегаючы па дварэ? Мо' табе цьвету ліпавага ці бурнэлькі напарыць?..

Глядзіць яна на мой, трохі пабляднеўшы за гэтыя дні, твар.

— А ліха яго ведае?—адкашліваюся я,—мо' і гэтак, мо' і прастудзіўся.

Я-то ведаю, што гэта не прастуда (калі я раней ня курыў, дык і ня кашляў), але няхай...

І маці парыць мне бурнэльку. Ну, а бацька? Ото які ўжо хітрэц мой бацька! Ну, пад заклад не абманеш.

— Ці ня курыць яно цішком,–зьвяртаецца ён да маткі.—Глядзі, што курыць, таму і кашаль: сухоты могуць прычапіцца,—кажа ён яшчэ болей, але ўсё-ж такі так, каб я пачуў яго гаворку.

Ды ня тут то было, татачка,—радуюся я за маю сьмікалку.—Я ведаю, і добра нават, што ён (бацька) мяне стра-



Ён дастае люльку з доўгім цыбуком, дастае капшук...

шыць сухотамі. (Я-то ведаю, што ад сухот паміраюць: нават Анісь Лукашоў ад іх памёр).

Але я і тое ведаю, што мяне не падманеш: мяне, можна сказаць, голаю пядзяю ня мералі! Ї што толькі найбольш уводзіць мяне ў злосьць, дык гэта „яно“! Якое гэта „яно“? Што я яму за „яно“? Чаму ён злаўчыўся і кожны раз выдумляе на мяне новыя назвы?

— От ужо пераяда сэрца,—нэрвуюся я і зусім забываюся аб сухотах. Але яшчэ праходзіць паўтара дня і я такі добра пакашліваю. Я цяпер задумліваюся і сапраўды пачынаю баяцца сухотаў. Нейкую боль, нэндзу на нутры адчуваю я. Каб ня прывычка да гэтага курэньня, дык ужо-ж, напэўна, кінуў-бы яго. Ну, а так?— нічога не папішаш! Так і гнэнбіць, вось так і цягне цябе (гэта мяне) да зрубу.

От-бок, ужо гэтая прывычка!

5.

У дзядзькі Андрэя сабраліся нашыя вясковыя хлопцы ды дзяўчаты.

Дзядзька Андрэй—музыка: ён грае на двухрадцы, а яны цесным колам круцяцца. У дзядзькі Андрэя цеснавата. Мы стаім напарадзе,—глядзім, як круцяцца пары.

— Ну, „марынаваная публіка“,—зьвяртаецца да нас (да мяне, да Тамашыка Клёцкі і Курдупеля), зьвяртаецца рызыкант Макар,—пазаміналі ды і будзе: пашлі ўжо спаць,—кажа ён. (Макар часьцяком робіць шпіктаклі і заўсёды ня пускае нас паглядзець: ён вельмі вялікі рызыкант).

— Ну, дык,—зьвяртаецца ён ізноў, калі мы стаім, ня рушымся,—ну, дык я не выпэндзам, а проша вон,—падштурхвае ён памаленьку нас у плечы.

Ї ў мяне ўжо як мае быць закіпела ў сярэдзіне:—мы адыходзім да парога. Папершае, што мы яму за такое, за „марынаваная публіка“, а падругое, якое ён мае права пасылаць нас спаць, ды яшчэ дакранацца да нашых плечаў? Мяне бярэ вялікая злосьць на Макара. Што ён такі за асэсар?

Ї я скручваю на скорую руку папяросу, закурваю і, улажыўшы адну руку ў кішэню, выходжу ад нашай хэўры з заявою. Я выходжу, каб дапячы Макару.

— Па-а-ду-у-ммаеш, які вялікі рыцар з паліваным носам,—гэта ў маёй заяве.— От-жа ня пойдзем!—стараюся я дапячы, выпускаючы дыму чым болей праз нос.

Але Макар, нічога ня кажучы, распяразваецца і, пакуль я думаю аб нашым становішчы, уся хэўра роем высыпаецца на двор.

— Вядома, што адзін у полі не ваяка,—сплёўваю я скрозь зубы, гэтак як дзядзька Андрэй, ды таксама, але паважным крокам, выходжу, пакурваючы папяросу.

Назаўтра гэты самы Макар прыходзіць да майго бацькі. Мяне зусім апаноўвае злосьць, чаму ён прышоў у маю хату?

Але ён расказвае бацьку, што я назваў яго „рыцар з паліваным носам“, расказвае, як я раскурываў. Бацька выслухоўвае ўсё тое як мае быць дый кажа:

— Ну, сынок Сенечка, хадзі сюды, ды прасі ў сталага чалавека прабачэньня!

— Ото дзіва! „сталага чалавека“,— шапчу я,—і ў мяне ад злосьці сьлёзы навяртаюцца.

— Ну, ідзі-ж, ідзі, сынок!

Ї я ўжо добра ведаю, што азначае гэтае „сынок“. Панастаяшчаму, дык я разумею так: я павінен уяўляць толькі сваю сталасьць, і мне няма ніякага інтарэсу да некага.

Тады бацька бярэ мяне за вуха і яшчэ раз паўтарае сваё прыказаньне.

— Прасі, сынок, прабачэньня, прасі,— кажа ён.

— Як прасіць?—плачу я. Не, не, не ад болю плачу, а ад злосьці, так.

— Вось кажы,—кажа бацька:—„Дзядзька Макар, прабачайце майму дзіцячаму дуру!“ Кажы!—і я кажу. Але што робіцца ў маім нутры? „Дзіцячаму дуру, дуру!?“ Так, няхай будзе „дзіцячаму“. Але-ж я ўсё роўна, ўсё роўна дакажу рызыканту Макару, дакажу і ўсім, усім... Успомняць яны мяне, мой „дзіцячы“ дур!..

6.

Я зусім зажаліўся і цяпер ляжу на ложку. Бацька за маё курэньне пачаставаў мяне асобна,—тады, калі пайшоў з хаты Макар. Ён насыпаў грэчкі і я прастаяў голымі каленьмі датуль, пакуль не адрокся ад майго гонару курэньня.

— Будзеш курыць?—пытаў ён у мяне праз кожныя дзесяць хвілін,—кажы, будзеш?

Але ў мяне хваціла цярплівасьці:



— Падумаеш, які рыцар з паліваным носам...

Я не хацеў адрачыся ад курэньня на працягу цэлай гадзіны.

— Ня буду,—толькі тады рашуча адказаўся я, калі грэчка пачала ўядацца ў голую скуру.

Дык вось цяпер я вырашыў, што няхай-жа мне лепей баліць галава, я буду „хворы“, буду ляжаць дзень, тыдзень і— не пайду есьці. От што цяпер. Я ім усім дакажу. Яны з мяне мала пажартуюць

— Нябось, усё-ж хоць урэшце, а ім стане мяне шкода,—разважаю я лежачы,—хоць тады будзе шкода, як ужо ад голаду буду паміраць. І я ляжу цяпер і чую (але для вока я нібы і ня чую), як кажа матка, ставячы бацьку на стол вячэру:

— От-жа яшчэ нічога ў роце ня было ад раньня. Ты перапалохаў яго за гэтага Макара.

— Нічагусенькі,—чую я, як кажа бацька,—нічагусенькі: паправіцца—пад'есьць. Ты толькі не чапай яго, не чапай!—чамусьці нечага не даказвае бацька і мяне апаноўвае найбольшая злосьць—чаму, чаму ён гэтак кажа?—выступаюць у мяне сьлёзы (я як злую, дык плачу). От-жа ня буду есьці, захліпаюся я,—няхай сабе памру ад голаду, а ня буду...

— Нябу-у-ду,—міжвольна вырываецца ў мяне крык, і матка падыходзіць да ложка.

— Што з табою, сынок,—мацае яна мой лоб, потым каля вушэй.

— Ці не гарачка ў яго?—зьвяртаецца яна да бацькі.

— Эт, гарачка, гарачка... Не чапай,— кажа бацька,—не чапай дзіцяці. От падурыцца крыху, а як захоча есьці, дык і гарачка пройдзе.

— Адыдзі, не чапай!—сёрбае ён з міскі,—чую я,—мусіць, забелены, абганяны крупнік.

7.

Ноч. Агонь даўно патушылі. І я чую, як бацька аддзімае сваё „пу-у-ф, пу-у-ф“,— сьпіць, значыцца. Маці таксама сьпіць.

Ціха. Толькі тараканы недзе па паперы на сьцяне шамечаць.

Кот ужо налавіўся іх (тараканаў) і цяпер прабіраецца, драпае, мармоча „кур-р-р“—лезе да мяне.

Мне злосьць на ката. Ён прывык спаць са мною пад аднэю коўдраю. Але я цяпер хватаю яго і шпурляю ад злосьці з коўдры далоў.

Мне вельмі хочацца есьці. Я ўспамінаю забелены крупнік, сьмятану на талерцы, успамінаю і пачынаю глытаць сьліну. Так, мне вельмі хочацца есьці, і

я, міжвольна, прыслухоўваюся зноў да бацькавага „пууф“. Але праходзіць хвіліна і я, праканаўшыся ў сапраўдным сьне бацькі, асьцярожна падымаю галаву.

— Сьпіць,—ціха шапчу я ды злажу з ложка.—Добра, няхай сьпіць.

Я іду асьцярожна да шафы. Чуць-чуць скрыпнулі дзьверы, у мяне заціхла дыханьне; здаецца, павярнуўся на ложку бацька?

Я прыслухоўваюся, і таго самага „пууф“ ня чуваць.

Як слуп, стаю я каля шафы, і ўсё спакойна. Зноў чую, як у роўнай меры „пууфкае“ бацька, сьпіць маці. Яшчэ і яшчэ праходзіць некалькі момантаў і ў маіх руках не малая скварка. Цяпер я ціханька падкрадваюся да стала, нашчупваю і аддзіраю кусок споднняй скарынкі з булкі хлеба і з маім правіянтам шмыгаю пад коўдру. Назаўтра раніцаю маці кляне ката. Я, уночы, баючыся нарабіць скрыпу, не зачыніў шафы і ён зьлізаў з талеркі застыўшую тлустасьць. Добра. Гэта мне на руку. Я буду далей даказваць маё права. Я ўсё роўна дакажу, разжалаблю майго бацьку.

8.

О-хо-хо-хо, як мне не пашанцавала! ды яшчэ-ж і як мне не пашанцавала! Сёньня я цэлы дзень таксама не бяру есьці. Маці ўжо зусім непакоіцца. А бацька? Бацька чамусьці маўчыць, нічога ня кажа.

— Ён, мусіць, хутка зьмякчэе,—разважаю я.

Але вось прышоў вечар, і што-ж я чую? Тое, што я чую, зусім разьбівае мае нарывы. От што я чую: бацька разводзіць астачу крупніку цёплаю вадою ды аддае Пірату; далей, ён прымае з стала хлеб, кладзе ў шафу, ды замыкае яе, замыкае таксама камору ў сенцах, і кладзе ключы сабе пад падушку.

І мне цяпер думаецца, што я ад голаду не дачакаю раніцы. Мне здаецца, што я ўжо зусім паміраю...



— Прасі, сынок, прабачэньня...

І цяпер пасьля ўсяго складзенага...

— Мама,—клічу я „пасьля ўсяго“,—мама, — і яна падыходзіць.

— Ну, дык...—Саромяюся, зьбіваюся з панталыку, і яна мяне разумее.

— Дай ключы,—кажа яна да бацькі, адварочваючыся ад мяне,—дай, бацька, ключы!

І бацька, прамаўчаўшы цэлую хвіліну, кажа да маткі:

— Няхай паперш сазнаецца, — кажа бацька, — хто быў у ночы ў шафе...

Зусім спакойна кажа, кладучыся на ложак, наперад ужо ведаючы, нашто матцы ключы.

І я... прызнаюся бацьку...

Якое вялікае няшчасьце! Я бачу сябе зусім мізэрным, нікуды ня вартым малым, дзіцем... Зусім не такім бачу я сябе, не такім сталым, вялікім, як дзядзька Андрэй. Вось як мне не пашанцавала!



# Як правесьці „Дзень птушак“.

Перш за ўсё трэба ў школе, піонэратрадзе вылучыць камісію, якая ўзяла-б на сябе падрыхтоўчую работу да правядзеньня „Дню птушак“ і правядзеньня самага „Дню“.

Камісіі належыць высьветліць некалькі пытаньняў:

1. Колькі чалавек будзе прымаць удзел у „Дню птушак“.

2. Дзе разьвешваць шпакоўніцы.

3. Як можна арганізаваць сумесную работу па наладжваньню шпакоўняў у школе.

Калі будуць выяўлены ўдзельнікі, належныя ўмовы (дзе разьмяшчаць шпакоўніцы і інш.), камісія склікае сход зацікаўленых у гэтай рабоце дзяцей. На сходзе праводзіцца гутарка аб „Дню птушак“ настаўнікам, аграномам, комсамольцам; у крайнім выпадку, можна нават зачытаць артыкул з газэты і разабраць па нашай часопісі артыкул аб шпакоўнях (як іх рабіць). Няхай кожны даведаецца аб тым, як рабіць шпакоўніцы, аб разьмеры, выглядзе іх, дзе і як разьвешваць.

У школах можна так зрабіць. Спачатку правесьці сход усіх вучняў з гутаркай аб „Дню птушак“. Пасьля, з усіх жадаючых ведаць, як зрабіць шпакоўніцы, можна арганізаваць некалькі гурткоў (групаў) і, такім чынам, азнаёміць вучняў з тым, як робяцца шпакоўніцы.

Раіцца арганізаваць у гэтым годзе „Сьвята птушак“ наступным чынам:

Раніцою ў школах зрабіць выстаўку, конкурс, лётарэю пытаньняў і адказаў на тэму аб ахове птушак, на выстаўку ці конкурск запрасіць бацькоў і неорганізаваных дзяцей. У поўдзень вучні бяруць шпакоўніцы, плякаты і організавана, з песьнямі ідуць разьмяшчаць шпакоўніцы. Увечары організоўваецца спэктакль, гульні і г. д., з прыцягненьнем неорганізаваных дзяцей.

У вёсцы можна правесьці так: раніцою зрабіць выстаўку, конкурс; пасьля прайсьці з песьнямі, музыкай (гармонік, скрыпка) па вуліцы і накіравацца да месца, дзе будуць разьмяшчацца шпакоўніцы. Увечары можна ў школе паставіць п'еску, організаваць гульні для вучняў і неорганізаваных дзяцей.

У вёсцы кожны вучань, піонэр можа рабіць шпакоўніцу ў сябе дома, а можна і ў майстэрнях школ, клюбаў,—гэта павінна больш практыкавацца ў гарадох і мястэчках. Для тых, хто будзе рабіць шпакоўніцу, дуплянкі—трэба ведаць, што ў кожнай птушкі ёсьць свае ўмовы гнездаваньня, а для гэтага трэба выяўляць гэтыя ўмовы і навучыцца прыцягваць розных карысных птушак. Шмат якія птушкі займуць вашыя гнёзды пры ўмове выкананьня вамі такіх правіл:

1) Папершае, трэба вешаць іх як мага вышэй. 2) Ляток павінен быць накірован к сонцу. 3) Гняздо павінна быць павешана адвесна альбо з вельмі вялікім нахілам да зямлі, каб у ляток ня мог пападаць дождж. 4) Прыбіваць трэба далей ад тоўстага суччa, каб вароны і кошкі не маглі-б заглядваць у дуплё. 5) Там, дзе няма тоўстых дрэў, шпакоўніцы прыбіваюцца да высокіх жэрдак (напрыклад, у садох). 6) Прывязваць вяроўкамі і дротам ня можна. 7) На дно шпакоўніцы пажадана насыпаць апілак з торфам, таўшчынёю ў 2 сантымэтры.

Разьвешваньне шпакоўніц і дуплянак робіцца перад прылётам птушак так, каб ім пасьля прылёту ня прышлося чакаць, пакуль вы зробіце шпакоўніцы і разьвесіце іх.

Рабеце гэта своечасова.

**ПТУШКІ ПАВЯЛІЧВАЮЦЬ БАГАЦЬЦЕ КРАІНЫ, —**



**ДЗЕЦІ ПАВІННЫ ЛЮБІЦЬ І ПРЫВАБЛІВАЦЬ ПТУШАК.**

# ПРЫВАБЛІВАЙ ПТУШАК.

Кожны з нас ведае, якую карысьць даюць нам птушкі. У гаспадарцы птушкі—гэта незамянімыя працаўнікі: па цэлых днях кружацца яны над палямі, садамі, агародамі і зьбіраюць шкодных кузурак, чарвячкоў, якія проць-маю нападаюць на сялянскае дабро.



Мал. № 1. Шпакоўніца і дуплянка ў гат. выглядзе.

Мір птушак, іх жыцьцё і асаблівасьці характару—усё гэта надзвычайна цікава, усё гэта само сабой прыцягвае ўвагу кожнага, асабліва нашых юных натуралістых.

Аднэй з важных задач юных натуралістых будзе задача па разьвядзеньню, па прывабліваньню птушак у сваім раёне, у сваёй гаспадарцы.

Як-жа прываблівацъ птушак?

Для гэтага можна разьвешваць драўляныя будкі для птушак—шпакоўніцы і дуплянкі. У гэтых будках ахвотна робяць сабе гнёзды і выводзяць птушанят амаль-што ўсе птушкі, якія робяць сабе гнёзды звычайна ў натуральных дуплах (дупла-гнёзднікі).

У другіх краінах, і асабліва ў Нямеччыне, даўно пачалі рабіць такія будкі. Там нават існуюць для гэтага знарочыстыя заводы. У нас гэта справа толькі што разьвіваецца.

Зрабіць самому шпакоўніцу або дуплянку—вельмі цікавая і карысная справа.

### Дуплянка.

Шмат хто, напэўна, бачыў, дзе жывуць і выводзяць птушанят дзятлы. Дуплё дзяцел робіць у ствале дрэва, звычайна досыць цікава: знадворку маецца невялічкая дзірка, як улезьці дзятлу; унутры ствала гэта дзірка пашыраецца у глыбкі, яна падобна на бутэльку. На дне дупла дзятліха нясе яйкі, з якіх і выводзяцца птушаняты. Звычайна ў незанятых такіх дуплах зьмяшчаюцца і іншыя птушкі: сініцы, мухалоўкі, гарыхвосткі... Дык вось, каб прывабіць гэтых птушак да сябе, трэба набыць для кожнай з іх зручнае месца для гнязда.



Мал. № 2. Як выглядае дуплянка з сярэдзіны.

Упяршыню гэта справа шырока разгарнулася ў Нямеччыне. Пачынальнік яе Г. Бэрлепш прапануе цалкам насьледваць у гэтым дзятлам (гл. мал. № 1).

Зрабіць такую дуплянку ня вельмі цяжка. Для гэтага трэба ўзяць кавалак круглага палена (ствала), даўжывей $1/2$ мэтра. У гэтым кавалку трэба прадзяўбці ўнутры дуплё, зрабіць з аднаго боку круглую дзірку для ўлёту птушак, прырабіць зьверху накрыўку з дошкі, а з другога боку (супроць дзіркі для ўлёту)—прымацаваць дубовую планку, каб можна было прывесіць дуплянку да ствала дрэва ці да сьцяны будынку. Зьвярнеце ўвагу на дуплянку Бэрлепша. Унутры дуплянкі маюцца тры пярсьцёнкі (ступенькі), гэта для таго, каб птушка магла трымацца за іх нагамі, калі знаходзіцца ў дупле, і каб маленькім птушанятам лягчэй было вылезьці з гнязда (мал. 2-гі).

Гэткія дуплянкі робяцца на такарным варштаце. Аднак, можна выдзяўбці такую дзірку і звычайнымі прыладамі: долатам, скобляй, цясьлёй... Для гэтага можна калодку зразу расьпілаваць уздоўж на дзьве палавінкі (плашкі), а пасьля, выдзяўбшы патрэбныя дзіркі, зьбіць цьвікамі (з сярэдзіны) у адну калодку.



Мал. № 3.

### Шпакоўніца.

Гэтак называюць будкі, зробленыя з дошак, для шпака. У вёсцы гэткія шпакоўні часта вешаюць каля хат, і шпакі ў іх ахвотна селяцца і выводзяць птушанят. Аднак, назва „шпакоўніца" застаецца ў сіле і тады, калі ў гэткай будцы селяцца нават і не шпакі, а іншыя птушкі.

Зрабіць шпакоўніцу вельмі лёгка (гл. мал. № 3). Дно з квадратовай дошчачкі, чатыры доўгія сьценкі, у аднэй з сьценак круглая дзірка, зьверху прыроблена накрыўка, ля задняй сьценкі—планка для таго, каб можна было прывесіць яе да дрэва, палкі ці сьцяны, вось вам і ўся будка.

Дошкі для шпакоўніцы павінны быць сухімі; гатунак дрэва ня мае асаблівае вагі. Таўшчыня дошак—2 сантым. Калі шпакоўня зроблена з тонкіх дошчак, дык у ёй усё будзе чуваць, а птушкі баяцца пабочных для іх гукаў і шуму: яны могуць уцякаць са шпакоўніц.

Шпакоўніцы бываюць розных тыпаў, у залежнасьці ад таго, якія птушкі ў іх гнязьдзяцца. Найбольш просты і пашыраны тып—шпакоўніца А (гл. мал. № 5). Раскажам, як трэба рабіць гэткую шпакоўніцу.

Падрыхтаваныя сухія і выгабляваныя дошкі трэба разрэзаць на шэсьць частак.

Дапусьцім, што мы хочам зрабіць шпакоўніцу, каб яна была прыгоднай для сініц, шпакоў, дзятлоў і інш. птушак. Тады асобныя часткі шпакоўніцы мы зробім такіх разьмераў, як паказана гэта на малюнку № 3. Пасьля адпілоўваем з дошкі квадратовае дно, даўжынёй і шырынёй у 15 см. Пярэднюю сьценку робім даўжынёй у 32 см., заднюю—у 30, або 29 см. Бакавая сьценка ў аснове мае даўжыню такую, каб можна было зьмясьціць яе пярэднюю і заднюю сьценкі (гл. падоўжны разрэз сьценкі *а*, *б* і *в*). Накрыўка мае невялікі нахіл ад пярэдняй сьценкі да задняй. Таму верхняя частка пярэдняй сьценкі, бакавой і задняй (*а*, *б* і *в*) павінна быць сьпілована наўскасяк пад адным кутом. Гэты нахіл не павінен быць вялікім. Трэба, каб розьніца ў даўжыні пярэдняй і задняй сьценак не перавышала 2–3 см.



Мал. 4. Выгляд дуплянкі зьверху.

Накрыўка шпакоўніцы—простакутная дошчачка, 2 кароткіх бакі яе маюць па 15 см., а 2 доўгіх—прыкладна, па 18—20 см.

У пярэдняй сьценцы на вышыні, прыкладна, 2/3 ад яе асновы робіцца круглая дзірка ў 5 см. Можна таксама зрабіць і квадратовую дзірку замест круглай (гл. мал. 3: шпакоўніца сьпераду і шпакоўніца ззаду).

Пасьля гэтага трэба акуратна і шчыльна зьбіць асобныя дошчкі. Да задняй сьценкі трэба прыбіць планку, каб можна было шпакоўніцу вешаць да дрэва ці да сьцяны. Добра, калі накрыўку зробіце на завесках і з кручком, тады кожную вясну можна будзе шпакоўніцу вычышчаць ад непатрэбнага сьмецьця.

Цяпер пазнаёмімся з рознымі тыпамі шпакоўніц.

*Тып А*. Робіцца для сініц. Разьмер – 15×15×32 (15 см.—бок, шырыня, а 32—вышыня пярэдняй сьценкі).

*Тып Б*. Для ўсіх птушак, апрача шпака. Разьмер—10×10×25; дзірка для ўлёту—$3^1/_2$ см.

*Тып В*. Напалову адчыненая шпакоўніца для гарыхвостак, шэрых мухаловак. Разьмер—11×11×11; накрыўку трэба рабіць даўжэйшую, каб варона з яе не магла дастаць птушанят.

*Тып Д*. Ахвотна засяляецца мухалоўкамі.

*Тып Е*. Для галак, удодаў, сіваваронак.

Перад тым, як разьвешваць гэтыя шпакоўніцы, на дно іх трэба насыпаць мешаніны з торпу і апілак, таўшчынёй каля 2 см.

Як дуплянкі, так і шпакоўніцы трэба вешаць толькі на тоўстых дрэвах, гэта таму, каб не псаваць цьвікамі маладых дрэваў. Звычайна яны падвешваюцца высока ад зямлі. Дзірка гнязда павінна быць накіравана ў сонечны бок і трошкі нахілена да зямлі, а не наадварот: так, каб у яе не пападала дажджавая вада.




Мал. 5. Тыпы шпакоўніц.

---

# Дзе яшчэ не падпісаліся!

*Сярод піонэраў, вучняў г. Рагачова шырока разгарнулася работа па падпісцы на сялянскі заём. Падпіска адбываецца калектыўна. Да гэтага часу атрады падпісаліся на 30 руб. 2-я школа сабрала падпіскі на 25 руб., у іншых школах і атрадах збор падпіскі яшчэ ня скончаны. Трэба, каб усе нашы школы і атрады правялі такую падпіску.*

**Б. Раўбаль.**

# КАМУ-Ж ПРАЦАВАЦЬ, КАЛІ НЯ НАМ?

## У майстэрні піонэра Багамолава.

Зайшоўшы на кватэру да піонэра атраду пры электрастанцыі Алеся Багамолава, вы, напэўна, падумалі-б, што знаходзіцеся ў майстэрні нейкага тэхніка ці інжынэра.

І сапраўды. З усіх куткоў пакою глядзяць на вас модэлі плянэраў, самалётаў, лобзікі, натуралістычныя колекцыі, розныя замыславатыя струманты, лук для стральбы, пісталет ды інш.

Ваша цікавасьць яшчэ больш павялічыцца, калі вы даведаецеся, што ўсе гэтыя прыгожыя модэлі, колекцыі і іншыя рэчы зроблены самім піонэрам Алесям Багамолавым бяз усякай пабочнай дапамогі.

Адкуль і калі зьявіўся ў Алеся нахіл да майстраваньня розных паветраных „штук“, ён і сам ня помніць. Помніць толькі, што змалку яшчэ зарадзілася ў яго жаданьне самому пабудаваць самалёт і (не жартуйце!) стаць чырвоным лятуном.

Магчыма, што гэтаму намеру спрыяў яшчэ і палёт яго на самалёце... Гэты палёт пакінуў у піонэра такое моцнае ўражаньне, што ён пасьля гэтага толькі і думаў пра самалёты.

— Глядзі-ж, блазан,—казалі бацькі,— не захапляйся асабліва паветранымі палётамі, бо гэта небясьпечна для жыцьця. Лепш іншымі справамі займіся.

Але маленькі Багамолаў іх мала слухаў і цярпліва заняўся пабудовай рэчаў, якія-б самі лятаді ў паветры. Пачаў ён з папяровых галубоў, якія пры ўдзячным надвор'і трымаліся ў паветры каля хвіліны. Але паступова перайшоў да больш складаных рэчаў.

— Не, браце, сваім розумам ты мала што зробіш;—сказаў знаёмы лятун Алесю, калі Алесь падрос да 12 гадоў. Трэба набыць табе якую-небудзь папулярную кнігу аб тым, як будаваць модэлі паветраных апаратаў і працаваць пад кіраўніцтвам гэтай кнігі.

Алесь паслухаўся. Прадаў некалькі непатрэбных школьных падручнікаў і на атрыманыя грошы купіў „Бібліотэку Чырвонага Лятуна“. Асабліва зацікавіўся ён кніжкай—„Як самому зрабіць паветраныя апараты“, згодна паказаньняў якой і пачаў майстраваць.



Піонэр Багамолаў за працай.

Перш за ўсё зрабіў ён паветраны шар, пабудова якога складалася з бляшанкі, ваты, хусткі і іншых простых рэчаў. Дзеля таго, каб прымусіць ляцець гэты „шар“, патрэбна было запаліць ватку і тым самым стварыць у бляшанцы цёплае паветра, пры дапамозе якога шар і ўзьняўся-б уверх.

Багамолаў так і зрабіў. Уявеце сабе яго захапленьне, калі шар сапраўды паляцеў. Але што гэта?—на шары зьявіўся маленькі агеньчык і дым... Так і ёсьць. Ад запаленай ваты агонь пашырыўся на ўвесь шар, які і згарэў ушчэнт, не пасьпеўшы апусьціцца назад.

Нятрываласьць паветранага шара навяла яго на думку ўзяцца за пабудову модэляй плянэра і самалёта.

За кароткі час ён, згодна паказаньняў сваіх кніжак, здолеў пабудаваць некалькі модэляй, якія амаль усе аказаліся недаўгавечнымі. То модэль зломіцца, выцяўшыся пасьля палёту ў паветры аб камень, то матка, засярдуючы за якую-небудзь правіннасьць на нашага „авіятара“, возьме ды зломіць на трэскі. Адным словам, модэлям Алеся прыходзілася вытрымліваць „аварыі“ (гібель).

Але ён быў далёкі ад расчараваньня і працягваў працу далей з ранейшым запалам. Зусім нядаўна яму ўдалося пабудаваць модэлі аэра-саняй і самалёта на лыжах, якія аказаліся дасканалымі ва ўсіх адносінах—як па дальнасьці палёту, гэтак і па сваёй трываласьці.

Цяпер наш Алесь сур'ёзна марыць аб пабудове сапраўднага паветранага апарату, на якім чалавеку можна было-б лятаць.

Яшчэ адным цікавіцца Багамолаў—зборам натуралістычных колекцый.

У яго пакоі маецца багатая колекцыя розных кузурак—матылёў, жукоў, вусяніц. Сярод іх маюцца даволі рэдкія і каштоўныя экзэмпляры. Шмат часу і цярпеньня паклаў ён на тое, каб сабраць гэтыя колекцыі.

Кожнае лета ён рэгулярна займаецца паляваньнем на кузурак пры дапамозе сачка. Злоўленыя кузуркі прыводзяцца ў парадак і займаюць сваё месца разам з іншымі ў агульнай колекцыі.

Мы ўжо не гаворым аб такіх „дробязях“, зробленых Алесем, як лук для стральбы, пісталет, які добра страляе пры дапамозе пістонаў, модэль аўтомобіля і шмат іншых розных рэчаў.

Вы можаце падумаць, што захапленьне Багамолава будаваньнем модэляй не дае яму магчымасьці добра вучыцца і працаваць у атрадзе?

Нікольki! Багамолаў лічыцца адным з лепшых вучняў у школе і прымае там актыўны ўдзел у грамадзкай працы. Нядаўна па яго ініцыятыве ў школе створана ячэйка Авіяхіму, сакратаром якой вучні абралі Алеся. Ён зьяўляецца памоцнікам пабадыра зьвяна і рэдактарам насьценгазэты ў атрадзе. З усёй сваёй працай ён упраўляецца.

## Белагрывая зіма.

Сьмяецца месяц з вышыні
І п'е кілішак чорнай ночы,
А вецер шастае, рагоча,—
Зімовай песьняю зьвініць...
І п'е кілішак чорнай ночы
Двурогі месяц з вышыні.

Ах, белагрывая зіма!
Цябе бяз меры я кахаю,
Бо сёньня поле ня ўздыхае
І плачу сумнага няма...
Таму бяз меры і кахаю
Цябе, гульлівая зіма.

І мне здаецца:—чую я,
Як сонца грае каля гаю.
Я сёньня жыць за шчасьце маю,
І мэта цьвёрдая мая!..
І мне здаецца:—чую я,
Як грае сонца каля гаю.

Сьмяецца месяц з вышыні
І п'е кілішак чорнай ночы,
А вецер шастае,—рагоча,
Зімовай песьняю зьвініць...
І п'е кілішак чорнай ночы
Двурогі месяц з вышыні.

**Кастусь Шавель.**

Толькі адным ня можа пахваліцца Алесь, гэта тым, што ён свае веды не перадае іншым піонэрам, не заахвочвае іх гэтай справай.

На запытаньне, чым гэта тлумачыцца?— ён адказвае вось што: ён спрабаваў прыцягнуць другіх піонэраў да сваіх вопытаў і прац. Але сустрэў з іх боку няўважлівыя, нясур'ёзныя адносіны. Піонэры, быццам, сьмяюцца з яго вопытаў, кпяць і ўсяляк жартуюць над працамі свайго здольнага сябра.

Аднак яны ўсё-ж такі зусім і зусім памыляюцца. Праца Алеся заслугоўвае ўвагі: такую працу варта праводзіць і іншым здольным да майстраваньня піонэрам і вучням. **Я. З—р.**

# Як я зрабіў модэль самалёта.

Пры пабудове модэлі самалёта перш за ўсё я пачаў з касьцяка яго. Касьцяк я зрабіў з простай хваёвай палкі ў 45 см. даўжыні і 5 мілімэтраў шырыні.

Асьцярожна рашчапіўшы абодвы канцы палкі, адзін на 13 другі на 16 сантымэтраў шырыні, уставіў у гэтыя рашчэпы крыльлі.

Крыльлі я выразаў з кардону, тонкага і пруткага. Адно крыло мела паверхню ў 13 × 30 сантымэтраў (большае), а меншае — 10 × 15 сантымэтраў. Абодвы крыльлі былі прымацованы да касьцяка на адлегласьці аднаго сантымэтру ад яго канцоў.

Прарабіўшы ўсё гэта, я атрымаў модэль плянэра. Каб прымусіць яго лятаць, я перасоўваў заднюю паверхню назад і ўперад. Калі плянэр падаў на пярэднюю частку, трэба было перасунуць назад другую паверхню; калі падаў заднім канцом, патрабавалася перасунуць паверхню ўперад.

Дзеля таго, каб зрабіць прапэлер модэлі самалёта, я зрабіў брусок і лопасьці. Апошнія робяцца з бляхі, а брусок з дрэва. На бруску зрабіў два надрэзы па дыяганалях абодвых бакоў, у якія уставіў бляшаныя лопасьці і прыбіў да бруска цьвічкамі.



Потым узяў кавалак дроту і, зрабіўшы дзірку ў бруску, уставіў адзін канец туды.

Далей прышлося адразаць ад кавалка моцнай бляхі палоску, у якой трэба зрабіць дзірку з такім разьлікам, каб туды пралез тонкі дроцік.

На адлегласьці 12 мілімэтраў ад дзіркі сагнуў палоску бляхі пад простым кутом, другі канец уставіў у рашчэп палкі, прымацаваўшы моцна шпагатам.

Пасьля ўсяго гэтага заставалася ўзяць тонкай гумы, нацягнуць яе паміж абодвымі паверхнямі, убіць туды кручкі, дзе прымацаваць канцы гумы, і модэль самалёту была гатова.

Накруціўшы гуму пры дапамозе пропэлера, я ўзяў модэль аднэй рукой за пропэлер, а другой за канец палкі на касьцяку і, надаўшы модэлі маленькі штуршок уперад, выпусьціў яе з рук. Што-ж аказалася?— пропэлер ад скручанай гумы сам закруціўся і наш самалёт паляцеў уверх.

А. Багамолаў.

---

# Дзе яшчэ так робяць?

Задумаў наш атрад організаваць бібліотэку. Але што рабіць, калі грошай няма ні капейкі?

Узялі сіламі піонэраў паставілі п'есу, і здабылі 10 руб. Організавалі лётарэю, і здабылі яшчэ 3 рублі, а ўсяго—13 р. Цяпер на гэтыя грошы ўзялі ды закупілі кніжак.

Як рады нашы піонэры, што маюць сваю ўласную бібліотэку і ёсьць што пачытаць.

Файтлін.

(м. Ляды, 17 атрад).

# Ня дрэнны прыклад.

Вучком нашай Ляднянскай сямігодкі пастанавіў, каб за сродкі саміх вучняў набыць некалькі аблігацый. Быў скліканы сход вучняў, дзе, пасьля дакладу, вучні выказвалі свае думкі адносна магчымасьці выпіскі аблігацый. І ўсе згадзіліся пачаць збор грошай.

Цяпер у нас кожная кляса будзе мець па аднэй аблігацыі.

Дзе яшчэ гэтак робяць?!!

Ф.

(Ляды, Аршаншчына).




Акцябраты. З карціны маст. Струміліна.

Тут, гуляючы, малыя дзеці
Ільлічу будуюць маўзалей.
Знаюць Леніна ўсе на сьвеце,
У любым пасёлку і сяле.

„Працай і навукай зьнішчым беднасьць“—
Гэткі сьветлы лёзунг Ільліча.
Грамату з нас кожны мусіць ведаць,
Дзеці ўсіх рабочых, дзеці ўсіх сялян!

У краіне нашай земляробскай
Інжынэры хутка вырастуць з малых.
І для родных вёсак шмат наробяць
Малатарняў, трактараў сваіх.

## Любім гуляць у шахматы.

З вялікімі труднасьцямі нам удалося організаваць пры школе шахматны турнір. Усяго ўдзельнікаў турніру сабралася восем чалавек. Турнір працягнуўся каля сямі дзён.

Вучні вельмі былі зацікаўлены вынікамі, і жадалі навучыцца гуляць у шахматы. На першы раз ніякіх прызоў нікому не давалі, бо ня было сродкаў. На другі раз думаем сабраць сродкі і даць лепшым гульцам прызы. Пасьля турніру мы зрабілі запіс вучняў у шахматны гурток і пачалі іх вучыць, як гуляць у шахматы.

Маем надзею, што к другому турніру будзе ў нас ня восем удзельнікаў, а ў некалькі разоў больш.

**Бондар.**

(м. Капаткевічы,
Мазырскай акругі).

## Карысна і весела.

Мы ў сваім атрадзе праводзім гульні, коўзаемся з горкі на санках,—усё гэта праходзіць вельмі весела.

Канькі ў нас не скарыстоўваюцца, бо нам гэта не „па кішэні“; калаўроты мы таксама не скарыстоўваем, бо няма ў нас вялікай сажалкі. Ёсьць, праўда, маленькая, дык яна ўся замецена сьнегам.

Мы прабуем коўзацца там на лыжых. Купіць лыжы мы ня можам, дык вось мы і надумаліся самім рабіць сабе лыжы. Бярэш дошку, пагаблюеш рубанкам, каб згладзіць трохі, потым бярэш ад рэшата абадок, наразаеш з яго патрэбную колькасьць палос, застругваеш, каб былі гострыя, і прыбіваеш да дошкі... Вось і ўсе нашы лыжы!

Калі няма за што купіць лепшых, дык і гэткія будуць добрымі.

Іваноў.

(Віцебскай акругі, Хвошнінскі атрад).

## Рамантуем кніжкі.

Нядаўна ў атрадзе пачала працаваць пераплётная майстэрня.

У гэтай майстэрні пакуль працуюць толькі хлопцы. Працай майстэрні кіруе адзін працаўнік нашай фабрыкі.

Сьпярша мы пераплялі некалькі кніжак атрада і свае вучэбнікі.

У бліжэйшы час мы будзем перапляtаць кнігі фабрычнай бібліотэкі.

Таксама думаем адчыніць для дзяўчат гурток кройкі і шыцьця.

Піонэры прымаюць шчыры ўдзел у працы гэтага гуртка.

Куська.

(14 атрад. Барысаў).

## У чырвоных казармах.

У добрым настроі, з вясёлымі абліччамі вучні Койданаўскай Беларускай сямігодкі разам з настаўнікамі накіроўваюцца праводзіць вечар у чырвоных казармах у вёсцы Дзягільна.

Пад'яжджаюць дзьве хурманкі, высланыя паграпатрадам, і вучні (хор, драмгуртка) прабуюць разьмясьціцца на іх. Але гэта ім не ўдаецца. Садзяцца дзяўчаты, а хлопцы з настаўнікамі ідуць пехатой. Дарога невялікая—тры вярсты.

Ветла спатыкае вучняў добра абсталяваны, прыгожы клюб. Чырвонаармейцы знаёмяць вучняў з працаю свайго клюбу, паказваючы сваю творчасьць, якая, трэба сказаць, стаіць шмат вышэй, чым у нашай школе.

У гэтай працы школа можа нават ад іх павучыцца. Азнаёміўшыся з працаю ў клюбе, усе накіроўваюцца ў казармы, дзе мае быць вечар. Каля палатак на скорую руку пабудавана сцэна. На лаўках разьмясьціліся чырвоныя пагранічнікі: чакаюць нашага выступленьня.

Перад пачаткам вечара адзін з настаўнікаў робіць невялічкі даклад аб разьвіцьці беларускай культуры і коратка расказвае зьмест п'есы („Бацька і сын“).

З цікавасьцю слухаюць п'есу, толькі часамі перашэптваюцца, перапытваюць адзін ў другога, што азначае сабою тое ці іншае слова. Чырвонаармейцы беларускую мову ведаюць слаба.

Асабліва зацікавіла чырвонаармейцаў беларуская песьня. Вечар скончыўся. Каб не застацца ў даўгу, чырвонаармейцы абяцалі прыехаць у Койданава і зрабіць вечар для вучняў. Гасьцінна разьвіталіся і паехалі.

Школе патрэбна гэткую сувязь узмацняць і ў далейшым: яна карысна як для адных, так і для другіх.

Г.

(Койданава. Бел. сямігодка).

## Вывучаем сталярную справу.

Спачатку думалі організаваць свой гурток, але не хапіла сродкаў. Потым зьвязаліся з профтэхшколай будаўнікоў.

Нам дазволілі займацца адзін раз у тыдзень у сталярнай майстэрні.

Цяпер нашы хлопцы (старэйшага канцэнтру) адзін раз у тыдзень займаюцца сталярствам.

Гэтыя заняткі дадуць нам шмат карысьці.

Горфінкель.

(Барысаў).

# Пра сваё роднае.

Высокі дом сьцяною стаў;
У ім і сум і радасьць—школа.
Увосень вецер штось сьпяваў;
Разьліўся песьняй навакола.
І я прышоў у гэты шум,
Сустрэў жыцьцё тут дарагое.
З вясною я у даль іду,
Мая вясна ідзе са мною...
І любы парты мне мае,
І урачысты звон званіцы.
Сяджу ў задуме на вакне,
Гляджу, як сад кругом срабрыцца.
Як бязупынна пухкі сьнег
Прасторы бельлю засьцілае;
На вуліцах задорна сьмех
Дзяцей вясёлых ня сьціхае.
Прайду я крок. Адзін, другі—
Заводы бурныя убачу.
Гудуць адрывіста гудкі,
Калёсы сьмех ліюць і плачуць...
Гурбой ідзе рабочы люд,
Зацягне песьню маладую...
Зьвініць у песьнях кожны кут.
Ля звонкай фабрыкі стаю я.
І гэты час так дораг мне:
Забуду я і шум і школу.
Кудысьці хочацца ляцець
У звонкіх сьпевах Комсамолу.
І так ідуць, праходзяць дні,
Што дзень к комуне нашай бліжай...
Люблю я ў бурны клюб зайсьці
Вясной, як вецер стрэхі ліжа.
З газэтай сяду за сталом
І з захапленьнем пачытаю,
Што ў сьвеце робіцца кругом,
Што робіцца ў палёх Кітаю.
Ды мчацца думкі ў галаве
Ад школы шумнай і бурлівай
Туды, дзе ўсё зьвініць, пяе—
У завод размашыста гульлівы...

**А. Розна.**

## У нас працуе электрычны гурток.

У нас пры атрадзе організаваўся электрычны гурток. Ён заснаваўся нядаўна. Мы за кароткі тэрмін (2-е заняткаў) ужо навучыліся рабіць праводку, папраўляць пробкі, рабіць злучэньне правадоў. Думаем яшчэ вывучаць дынамо-машыну, а потым узяцца за радыё.

**Кац.**

(Барысаў. 52 атрад).



Лыжнік у вёсцы.

## Вінаваты павадыры, што ў нас дрэнная работа.

У артыкуле „Просім выказацца“ (№ 2 „Б. П.“) гаворыцца, што ў атрадзе ёсьць многія піонэры, якія ўмеюць працаваць толькі па-за атрадам, а ў атрадзе маўчаць.

Памойму, тут піонэры не вінаваты, а вінаваты павадыры, бо яны нас нічому добраму ня вучаць. Толькі і ведаюць, што трэба „карміць“ нас дакладамі.

Каб нашаму, напрыклад, павадыру сказаць, што трэба дапамагчы такому-то піонэру зрабіць модэль або знайсьці для яго па гэтаму пытаньню спэцыяльную кніжку, дык ён адкажа: „гэтага я не гаварыў вам рабіць—самі рабеце“.

Такія прыклады ў нас у атрадзе былі.

Ва ўсім вінаваты павадыры, а мы са сваімі ведамі і ініцыятывай не хаваемся ад атраду.

**Піонэр К. Вайтуховіч.**




Віктарына—гэта род гульні, які прышоў да нас з Амэрыкі. Карысьць ад гэтай гульні тая, што чытач прывучаецца кемлівасьці, прывучаецца хутка арыентавацца ў неспадзяваным, іншы раз, зусім лёгкім пытаньні.

На ўсе пытаньні кожнага разьдзелу ў чарговых нумарох будуць зьмяшчацца адказы. Адказы ўдзельнікаў гульні могуць і не супадаць па форме з адказамі рэдакцыі: трэба прымаць пад увагу толькі правільны адказ па сутнасьці пытаньня.

**Правілы гульні.**

Правільны адказ на пытаньне дае 2 ачкі.

Няправільны адказ або адсутнасьць гэтага—нічога не дае.

Той выйграе, хто атрымлівае большы лік ачкоў.

Адказы павінны расцэньвацца па зьместу іх, а не па форме. Выказаны адказ мяняць нельга: слова—не верабей, выляціць—ня зловіш...

У „Нашу віктарыну“ можна гуляць:

1. Аднаму: тады гулец сам сабе лічыць ачкі.
2. Удваіх: адзін пытае, другі адказвае.
3. Зьвяном: адзін чытае пытаньні, а ўсе іншыя пішуць у сябе на паперках адказы.

1-ы разьдзел.

1. Калі заснавалася піонэрарганізацыя на Беларусі?
2. Хто зьяўляецца старшынёй Савету Народных Камісараў БССР?
3. Колькі прозьвішчаў мае Якуб Колас?
4. Чым вядомы для нас дзень 11 ліпеня?
5. Якая розьніца між трохполкай і шматполкай?
6. Чаму зімой ня бывае грому?
7. Што такое град?
8. Якія птушкі прылятаюць да нас з выраю першымі?
9. Якая крылатая істота жыве ня больш аднаго дня?
10. Якая існуе на сьвеце самая маленькая птушка?
11. Колькі раманаў напісаў Я. Купала?
12. Што азначаюць тры рагі ў піонэрскім гальштуку?
13. Што такое „крыніца“?
14. У якім творы вы чыталі наступныя радкі:

... Латае халацік
На услоне матка:
Заўтра пойдзе ў школу
Іх сынок, Ігнатка.

15. Якія зьвяры называюцца драпежнымі?
16. Дзе халадней: на паўночным канцавосьсі ці на паўднёвым?
17. Колькі маецца акруг у БССР?
18. У якім годзе радзіўся Ленін?
19. Якая самая высокая гара ў Беларусі?
20. Хто зьяўляецца старшынёй ЦБ ЮП пры ЦК ЛКСМБ?



# НОВЫ ВЕТРАНЫ РУХАВІК.

*(Вінгротар).*

Фінляндзкім вынаходцам Савоўніусам вынайдзены нядаўна ветраны рухавік, які ён назваў „вінгротарам“, пафінску гэта азначае „крыльчаты ратор“.



Мал. 1.

Агульны выгляд рухавіка паказаны на мал. 1. Як відаць з мал. 1 і 4, крыльлі гэтага рухавіка ўяўляюць сабою 2 паўцыліндры *) (мал. 1 (1), пастаўленыя ўгнутымі бакамі адзін да другога. Паўцыліндры стаяць паміж двума кругамі (мал. 1 (2), якія зьмяшчаюцца зьнізу і зьверху рухавіка. Рухавік замацаваны на восі (мал. 1 (4) і круціцца ад ветру, незалежна ад таго, з якога боку дзьме вецер.

Як-жа працуе рухавік? Струмені паветра (мал. 4, паземны разрэз рухавіка), трапляючы паміж паўцыліндрамі, ціснуць з большай сілай на ўгнутую частку паўцыліндра В, чым на выпуклую частку паўцыліндра А. Апрача гэтага, струмені паветра, загібаючыся ў праходзе паміж паўцыліндрамі, удараюцца ва ўгнутую частку паўцыліндра А і ціснуць на яго, з прычыны чаго рухавік круціцца хутчэй. Але і гэта ня ўсё—струмені паветра, якія агібаюць паўцыліндры, робяць радзейшымі паветра на тых мясцох, дзе на мал. 4 пастаўлены знакі — (мінус), і згушчаюць паветра там, дзе пастаўлены знакі + (плюс), што таксама павялічвае хуткасьць вярчэньня рухавіка.



Мал. 2.

Рухавік, які мы апішам ніжэй, у залежнасьці ад моцы ветру, можа разгортваць каля 1/15—1/8 конскае сілы. Яго можна ўжываць для помпаваньня вады, вярчэньня дынамо-машыны і г. д.

Найлепшым матар'ялам для крыльляў зьяўляецца ліставое жалеза (бляха). Для паўцыліндраў трэба ўзяць жалеза тонкае 8-фунтовае, а для кругоў, ці шайб, як іх называюць іначай,—тоўстае 14-фунтовае.

Калі нельга дастаць жалеза, паўцыліндры можна зрабіць з фанэры, а шайбы з тонкага дрэва, але гэткі рухавік хутка папсуецца ад сонца і дажджу.

Пачнем будоўлю рухавіка. Перш за ўсё зробім шайбы (мал. 1 (2); для гэтага на блясе трэба нарысаваць цыркулем дзьве акружыны прамерам (дыямэтрам) у 525 мм. Выразаныя ножніцамі вакружыны трэба расправіць драўляным малатком на роўным стале. Пасьля гэтага цыркулем адзначаем на шайбах месца для



Мал. 3.

паўцыліндраў. Для гэтага на шайбе рысуеце круг праменем (радыусам) у 225 мм. (на мал. 6 (2) паказана кропкамі). Затым, у крузе трэба правесьці прамер і падзяліць яго на 3 роўных часткі па 150 мм. Цяпер з двух пунктаў дзяленьня правядзеце паўкругі праменем у 150 мм. Такім чынам, месца для паўцыліндраў знойдзена. Гэту працу трэба зрабіць вельмі старанна, калі хочаце, каб рухавік працаваў добра.

Цяпер будзем рабіць паўцыліндры. З тонкага жалеза выразаем два простакутнікі, як паказана на мал. 5 (1). У двух бакох кожнага з простакутнікаў праразаем вушкі, пры дапамозе якіх паўцыліндры будуць прыклёпаны да шайб. Выразаныя простакутнікі згібаем так, каб у нас атрымаліся паўцыліндры праменем у 150 мм. Вушкі адгінаем так, каб яны ўтварылі з паўцыліндрам просты

*) Паўвальцы.

кут, і прабіваем у іх прабойнікам ці цьвіком дзіркі для заклёпак (мал. 2).

Цяпер ставім паўцыліндры на шайбы па вызначаных кругох і ў шайбах таксама прабіваем дзіркі.

Далей трэ' будзе зрабіць у шайбах дзіркі для восі і самую вось. Для восі (мал. 1 (4) можна ўзяць круглае жалеза ці вадаправодную трубу прамерам у 15—20 мм. Калі вось няроўная, дык яе трэба выпрастаць і апілаваць напільнікам у тым месцы, дзе яна будзе круціцца ў падшыпніку. Вось сваім ніжнім канцом абапіраецца на ўпорны шворан (болт) пятніка (мал. 1 (7). Для гэтага ў канцы восі трэба высьвердліць паглыбленьне, якое мае форму стажка (конуса). Калі вось зроблена з трубы, дык у трубу трэба ўставіць кавалак жалеза з стажковым паглыбленьнем і замацаваць яго заклёпкай. Пры таўшчыні восі 15—20 мм., даўжыня яе павінна быць каля 3 мэтраў.



Мал. 4.

Вось прымацоўваецца да шайб пры дапамозе двух дыскаў (кружкоў—мал. 3 (3в). Адзін з дыскаў знаходзіцца зьнізу шайбы, другі—зьверху. Дыскі злучаюцца паміж сабою шворнамі, якія праходзяць скрозь шайбы. Кожны дыск складаецца з трох драўляных кружкоў, таўшчынёю па 10 мм. Кругі выпілоўваюцца прамерам у 120 мм. і злучаюцца паміж сабою шрубамі.

У асяродку дыска прасьвердліваецца дзірка, прамер якой роўны з прамерам восі, з боку дзіркі робіцца простакутны вырэз, шырынёю 6 мм., даўжынёю 10 мм.

У гэты вырэз пасьля будзе ўбіта шпонка, якая мае выгляд кліна і робіцца з кавалка квадратовага жалеза. Даўжыня шпонкі 100 мм., сячэньне аднаго з канцоў 10×10 мм., другога—10×7 мм.

Для трываласьці і захаваньня дзіркі у дыску ад размолу шпонкай зрабеце з жалеза колца з выступам для шпонкі, як паказана на мал. 3 (К), і ўстаўце яго ў дзірку.

Падрыхтаваўшы ўвесь матар'ял, можна распачаць зборку крыльляў. Перш за ўсё прыклёпваем паўцыліндры к шайбам (мал. 2). Заклёпкі можна насекчы з цьвікоў. Цьвікі трэба раней нагрэць дачырвана ў печы, а потым паволі астудзіць, закапаўшы іх у попел ці пясок.

Шайбы з прыклёпанымі паўцыліндрамі замацоўваеце на восі. Верхняя шайба павінна знаходзіцца на адлегласьці 50—100 мм. ад краю восі.

Каб шпонкі шчыльна прылягалі да восі, канцы восі трэба крыху падпілаваць напільнікам так, каб тыя месцы, якія прылягаюць да шпонкі, былі не паўкруглымі, а роўнымі.

Вось рухавіка круціцца ў падшыпніку (мал. 1 (6). Падшыпнік (мал. 7 (6) робіцца так:

Вазьмеце невялікую бярозавую дошку і выдзяўбце ў ёй дзірку прамерам у 60—80 мм. Дзірку ў сярэдзіне (унутры) не рабеце гладкай. З дрэва выстружце круглую палачку прамерам, роўным прамеру восі.

Палачку ўстаўце ў цэнтр выдзяўбанай дзіркі і ўлійце ў яе расплаўленае волава (сьвінец) ці бабіт*).

Калі ён застыгне, палачку выкалупваюць, і ў бабіце застаецца гладкая дзірка для восі.

Падшыпнік замацоўваецца на кронштэйне (мал. 8 (5), які робіцца з таўстых дошчак.

Вось сваім ніжнім канцом круціцца на апорным шворне пятніка (мал. 7 (7).



Мал. 5. Мал. 6.

Для пятніка трэба выпілаваць з бярозавага палена брусок сячэньнем 100×100 мм. На канцох бруска зрабеце прыступкі, як паказана на мал. 7 (7). У цэнтры бруска выдзяўбце ямку, у якую ўстаўце шворан і залійце яго бабітам.

*) Злучэньне (сплаў) волава і цыны.




Мал. 7.

Шворан павінен выступаць з ямкі на 40-50 мм., прычым канец яго, трэба падпілаваць напільнікам так, каб ён меў форму стажка. Шворан залійце ў ямцы бабітам.

Сабраны такім чынам рухавік будзе круціцца, як кажуць, „у пустую". Каб прыстасаваць яго, напрыклад, для пампаваньня вады, трэба злучыць яго з помпай пры дапамозе паса. Пас гэты праходзіць праз шкіў (мал. 1 (8), насаджаны на вось. Шкіў, таўшчынёю ў 50—80 мм., складаецца з трох драўляных кругоў, злучаных паміж сабою шрубамі. Шкіў насаджваецца на вось з дапамогаю шпонкі (таксама, як і шайбы).

Для палягчэньня церця (трэнія) і для захаваньня падшыпнікаў ад псоты, трэба, каб падшыпнікі ўвесь час шмараваліся. Для гэтага на пятніку і падшыпніку замацоўваюцца бляшаныя скрыні (мал. 7 (9). У скрыні трэба палажыць пакульля і наліць якога-небудзь густога масла, якое ўжываецца для шмараваньня.

Паўцыліндры і шайбы для захаваньня ад іржы трэба пакрыць лякам ці маслянай фарбай.

Рухавік можна прымацаваць да слупа ці да страхі дома. У гэтым выпадку падшыпнік замацоўваецца на грэбені страхі, а пятнік—на вышках. Таксама можна замацаваць рухавік з боку страхі на кронштэйнах, на ствале дрэва і г. д.




Мал. 8.

Хто з чытачоў будзе рабіць рухавік, напішэце ў рэдакцыю аб выніках працы.

*Увага*: усе разьмеры на рысунках паказаны ў мілімэтрах.

С. Постнікаў.

▼▼▼▼▼▼▼▼▼

## Сон піонэра санзьвяна:

Нейк пасьля заняткаў
Пра „хім-сан" парадкі
Сладка заснуў я.
Сплю гэта і чую:
Сыплюць кулямёты,
Жараць бамбамёты...
То вайна гуляе...
Раптам куля злая
Мяне з ног скідае.
„Ой, ды памажэце,
Больку завяжэце!"—
Я крычу даўно.
Аж тут санзьвяно
Нашае, яй-права.
Падбягае брава
Мяне ратаваць —
Кулю даставаць.
„Ціха, галубок,
Ляж—крычаць—на бок!"
Адпачні часок.
Скончыцца вайна
На заняткі к нам,
У сваё зьвяно
Прыдзеш Міцік зноў.
Тут я й прахапіўся...
Ото-ж сон прысьніўся!






# Першае знаёмства

Казка **А. Поляка.**

Малюнкі **Я. Кашкеля.**

— Цюцька, Жучок! сядзі дома: сёньня я еду з Марылькай,—сказаў Міхаська свайму шчыраму таварышу і пагразіў яму маленькім пальчыкам.

Жучок як быццам адразу зразумеў гутарку Міхаські і ў знак сваёй згоды завіляў хвастом.

— Гэй, дарогу, дарогу, сьцеражэцеся!—крычаў на ўзгорку Міхаська.

Саначкі хутчэй птушкі ляцелі з гары. За Міхаськам на саначках сядзела яго малодшая сястрыца Марылька. Яна на ўсё горла пішчала ад радасьці.

Мароз разрумяніў іх шчочкі, і каб гэта было ня зімой, а летам, то вы, пэўна, памыліліся-б: іх шчочкі здаліся-б вам чырвоненькімі кветачкамі садавога маку.

Хлопчык крычаў: „сьцеражэцеся“, але некаму было сьцерагчыся, бо на ўзгорку, апрача Міхаські і Марылькі, нікога больш ня было. А дзеці думалі, што ўвесь сьвет ад зайздрасьці пазірае на іх шчасьце.

Саначкі ўрэзаліся ў глыбокі сьнег. У пяці кроках ад сябе дзеткі ўбачылі зайчыка.

— Марылька! глядзі,—сказаў Міхаська,—ды гэта-ж той зайчык, якога калісьці тата злавіў у канюшыне. Ён тады быў зусім маленькім. Помніш, як цэлую восень гадавалі мы яго сьвежанькай капусткай?

— Дзень добры, дзеткі!—крыкнуў зайка.

— Добры, добры дзень! Дужа рады цябе бачыць,—у вадзін голас адказалі дзеткі.

— Дарагі зайка, — сказала Марылька,—дзе твая хатка, дзе ты цяпер жывеш?

— Жыву я ў лесе, а хатка мая пад кожным кусьцікам,—адказаў зайчык.

Дзеці пачалі прасіць зайку, каб ён узяў іх у лес.

Уважыў зайка просьбе сваіх знаёмых. Ён зараз-жа хваціў вяровачку, якая была прывязана да саначак, перакінуў яе цераз плячо і борзда, борзда павёз дзетак у лес.

З узгорку саначкі самі ляцелі ўперад, і зухаваты зайка ў гэты момант станавіўся ззаду на палазкі і спрытна кіраваў саначкамі.

Вось і лес. Высокія, лахматыя, стогадовыя ёлкі былі абсыпаны сьнегам. Зялёныя іх іголачкі здаваліся яшчэ больш зялёнымі пад праменьнямі бліскучага сонца.

Тут нашы вандроўцы спыніліся. Зайка міжвольна пачаў грызьці кару маладых асінак.

— Што ты робіш, зайка?—спыталася Марылька.

— Абедаю,—адказаў зайка.

— І мне хочацца есьці,—сказала Марылка.

Зайка, як далікатны гаспадар, падаў Марыльцы і Міхасіку па сучку маладзенькай асіны і сказаў:

— Грызеце кару: яна дужа смачная.

Усе трое ўзяліся за яду.

У зайкі аж мордачка скрывілася на бок і пацякла сьлінка.



...дзеткі убачылі зайчыка.

Пацякла сьлінка і ў дзетак ад горачы, якая пачала шчыпаць іх за язык.

— Не, я не хачу гэту кару есьці, бо яна мае смак тых парашкоў, якія дае мне мама, калі ў мяне баліць галава.

Міхаська таксама выплюнуў кару ды сказаў:

— Мілы зайка, дай лепш нам гарэхаў: я чуў, што гарэхі растуць у лесе.

— У мяне гарэхаў няма, але я завяду вас у госьці да маёй суседкі ваверкі, а ў яе гарэхаў многа.

Дзеткі падскочылі ад радасьці. Ім цікава было бачыць ваверку, а яшчэ больш цікава пахрустаць смачныя гарэшкі.

Зайка падаў правую лапку Марыльцы, левую—Міхаську і павёў іх да ваверкі. Міхаська цягнуў за сабой саначкі.

Неўзабаве яны падышлі да тоўстай высокай елкі. Сьнег пад ёй увесь быў засыпаны лушпінкамі ад шышак і гарэхаў. Чутно было, як уверсе нехта чмокаў языком. Зайка крыкнуў:

— Дзень добры, суседка! я прывёў да цябе дарагіх гасьцей.

Ваверка распусьціла свой калматы хвост і пачала пераскакваць з галінкі на галінку, усё ніжэй і ніжэй, і тутжа ўбачыла вясёлую кампанію.

—Прашу, прашу,—сказала ваверка.—Чым-жа вас частаваць?

Тут Марылька ня вытрымала і сказала:

— Гарэшкаў дай нам.

Ваверка зараз-жа шмыгнула ў дупло і адтуль пасыпаліся жоўценькія буйныя гарэшкі.

Міхаська і Марылька кінуліся падбіраць іх. Нават пачалі штурхаць адзін другога. Зайка важна стаяў пад маленькім дрэўцам і сьмяяўся сабе ў вус. Праз хвіліну і ваверка была на зямлі. Яна памагала дзеткам зьбіраць гарэшкі. Сваімі гострымі моцнымі зубкамі разгрызала іх і падавала то Марыльцы, то Міхаську.

Наеліся дзеткі гарэшкаў, падзякавалі ваверку. Міхаська з зайздрасьцю сказаў:

— Добра вам тут жывецца!

— Ня ўсім добра! – у адно слова адказалі зайка і вавёрка. Вось у нас ёсьць адзін сусед, мядзьведзем яго завуць, дык цэлую зіму ляжыць галодны.

Зайка дабавіў:

— Калі хочаце, я завяду вас да яго. Пабачыце. Толькі ня пужайцеся, бо ён дужа страшны.

— Вядзі, вядзі,—закрычалі ўсе.



Вавёрка пачала пераскакваць з галінкі на галінку.

— Мы вельмі хочам пазнаёміцца з страшным мядзьведзем.

Зайка ўзяў Марыльку за руку і важна скамандаваў:

— За мной!

Вавёрка толькі цяпер убачыла ў Міхаські саначкі і запыталася:

— Што гэта такое?

— Саначкі. Садзіся, я цябе павязу.

Вавёрка села і Міхаська павёз яе за зайчыкам і Марылькай.

Лес рабіўся ўсё гусьцей і гусьцей. Цяжка было йсьці па гальлі.

**Дзеці! Пішэце к нам у рэдакцыю, якія апавяданьні вам падабаюцца з тых, што мы друкавалі ў часопісі. Пішэце, як працуюць групы акцябрат.**

---

Раптам зайка застанавіўся і сказаў:

— Ціха, таварышы: тут блізка бярлога нашага санлівага суседа.

Зрабілі яшчэ дзесяць крокаў і ўбачылі пад ламаччам касалапага Міхайлу. Аднэй лапай ён праціраў сабе вочы, а другой смактаў як быццам соску.

— Дзень добры, Міхайла,—сказаў зайка,—мы да цябе ў госьці прышлі.

Голасна зяўнуў мядзьведзь ды зароў на ўсё горла:

— Нечым, нечым частаваць вас!

Ён сваім рыкам так напужаў усю вясёлую кампанію, што ўсе папёрліся без аглядкі. Нават белачка з саначак ускочыла на дрэва. Пасьля самой ёй стала сорамна, што кінула сваіх таварышоў.

Праз хвілінку нашы вандроўцы раіліся, кудыісьці далей. Нізка спусьцілася сонца. Наступіла шэрая гадзіна. У Марылькі мільганула думка: ісьці дамоў. Але ў гэты момант яны ўбачылі лісіцу, якая, туляючыся, ціханька на дыбачках зьвярталася ў сваю норку. У зубах несла яна курачку. Доўгім пушыстым хвастом замятала сьлед, каб хто-небудзь не знайшоў яе норкі. Змоўклі ўсе і сталі ўглядацца ў прыгоженькага хітрага зьвярка. Дужа спадабалася рыжанькая лісіца Марыльцы. Марылька закрычала:

— Добры вечар, суседка! хадзі да нас!

Але гэтыя словы так перапалохалі лісіцу, што яна куляй паскакала ў кусты і зьнікла.



Вавёрка села, і Міхась павёз яе.

Сьцямнелася. Нашы дзеткі пачалі прасіць зайчыка і вавёрку завясьці іх дахаты. Борздым шагам выходзяць яны з лесу. Вось убачылі, як два сіненькіх аганькі бліснулі ўперадзе іх. Зайка першым здагадаўся, што гэта воўк.

— Стой, таварышы: воўк!

Ад гэтых слоў, як малатком, застукала сэрца ў Марылькі. Міхаська нават схапіўся за ножык, які ляжаў у кішэні. А сам думаў над тым, што рабіць, каб ня спужаць Марылькі.

У гэты момант недалечка пачулася жудаснае:

— Ау—у-у-у-у-у-у!

Зайка наставіў вушкі і сказаў:

— Таварышы! трэба ўцякаць у лес!

— Давайце палезем усе на дрэва, там ня страшна,—сказала вавёрка.

Але ў гэту хвіліну здалёку пачулася брахня Жучка. Дзеці па голасе яго пазналі. Чутно было, як ён падходзіў усё бліжэй і бліжэй.

Убачылі дзеткі, як і воўк пакуляўся на голас Жучка. Міхаська чуць не закрычаў:— Жучок, сьцеражыся: да цябе воўк пайшоў!

Аж раптам моцна бліснула штосьці ўперадзе і пачулася:

— Бууух!!!

Дагадаўся Міхаська, што нехта выстраліў у воўка. Ад радасьці хацеў абняць сваіх таварышоў, але зайчык і вавёрка далі з усіх ног драла ў лес. На ляту яны сказалі:

— Бывайце здаровы! выбачайце!

У гэты-ж самы момант каля Міхаські і Марылькі, як шалёны, кульгаючы, пранёсься воўк. На сьнягу быў відаць крывавы сьлед.

Не пасьпелі дзеці апамятавацца, як Жучок пачаў кідацца на грудзі то Міхаську, то Марыльцы. Сваім прарэзьлівым піскам ён гаварыў штосьці дзеткам. Цяжка было ўразумець яго словы, але сэнс сказу быў зразумелым.

З стрэльбай за плячыма падышоў да дзяцей бацька і сказаў:

—Падзякуйце Жучка: ён сваім нюхам прывёў мяне сюды.



# АБ УСІМ ПАТРОХУ.

## Пераможаныя Альпы.

Нядаўна, пасьля 18 год упартае працы, скончылася будоўля электрычнай паветрана-канатнай чыгункі, якая ідзе на самую высокую альпійскую гару Монблян у Швайцарыі. Раней, каб падняцца на верхавіну Монбляну, пакрытую вечным сьнегам, трэ' было перамагчы вялізарныя труднасьці і нават небясьпеку. У сучасны момант пад'ём на верхавіну,





які рачей цягнуўся тры дні, адбываецца за некалькі гадзін, без усялякіх перашкод. Мал. (левы) паказвае станцыю гэтай чыгункі, зьмешчаную на вышыні 2.664 мэтры ($2^1/_2$ вярсты) над роўнем мора.

На правым малюнку (у другой калёнцы) паказаны вагон чыгункі, які зьмяшчае ў сабе 18 чалавек.

## Радыё для глухіх.

Заграніцай зьявіліся ў продажы тэлефонныя трубкі, з дапамогаю якіх глухія могуць слухаць перадачы радыё-станцый. Трубкі гэтыя адрозьніваюцца ад тых, якія звычайна ўжываюцца радыё-аматарамі, толькі тым, што на іх насаджваюцца, як паказана на малюнку, гумовыя соскі, накшталт тых, што даюцца дзецям.

На канцы соскі зроблена невялікая дзірка да $^1/_8$ цалі ў прамеры.



## Апэтыт зьмяі.

Год таму назад у Бразыліі злавілі вялізную зьмяю—боа, якая мела ў даўжыню 8 мэтраў і важыла 150 кгр. Зьмяю зьмясьцілі ў зоолёгічны сад у Рыо-дэ-Жанэйро (Паўдн. Амэрыка), дзе ў працягу 6 месяцаў яна нічога ня ела. Нядаўна вялізны натоўп народу сабраўся ў садзе, каб паглядзець на рэдкае відовішча карміленьня зьмяі, якая неўзабаве да таго дала жыцьцё 70 маленькім зьмеям.

Апэтыт зьмяі зьдзівіў усіх прысутных: боа праглынуў спачатку дзьве вялікіх сьвіньні, затым трох качак і скончыў свой абед чатырма трусамі.



## Новый спорт—скокі з паветранымі балёнамі.

Гэты спорт пашыраны ў Амэрыцы і Англіі. Да сьпіны спортсмэна з дапамогаю рэменя прывязваецца вялізны паветраны балён, напоўнены асобным газам.

Адпіхнуўшыся ад зямлі, спортсмэн узьлятае на вышыню 3-паверхавага дома, і затым плаўна апускаецца, пераляцеўшы праз палі, дамы ды інш. Пры падарожным ветры даўжыня скокаў павялічваецца і можа дасягнуць да аднаго кілёмэтру.

Ня вельмі прыемна, аднак, калі балён моцна нагрэецца праменьнямі сонца, бо тады газ пачне пашырацца, і сьмелы спартсмэн можа ўляцець да самых воблакаў. Каб гэтага ня трапілася, на балёне маецца асобная кляпа, да якой прывязана вяроўка. Пацягнуўшы за вяроўку, можна адчыніць кляпу і выпусьціць частку газу. Апрача гэтага, спортсмэн мае невялікі якар, які можна скінуць у кожную хвіліну і зачапіцца ім за дрэўца ці што-небудзь іншае.



## Самалёт-аўтамабіль для борздай перавозкі параненых.

У Францыі вынайдзены нядаўна новы спосаб перавозкі хворых і параненых. Параненыя падбіраюцца на полі бойкі і кладуцца на насілкі, якія зьмяшчаюцца ў спэцыяльна зроблены для гэтай мэты аўтамабіль.

Гэты аўтамабіль мае форму, пры якой паветра аказвае найменшае супраціўленьне руху — пярэдняя частка аўтамабіля закруглена, задняя загострана. Аўтамабіль, нагружаны насілкамі з параненымі, накіроўваецца к самалёту, нярухомая задняя роўніца*) якога ўтварае як-бы арку, пад якой праяжджае аўтамабіль перад тым, як выехаць на ніжнюю роўніцу, якая мае асобныя жолабы для колаў.

З дапамогаю асобных прылад аўтамабіль прымацоўваецца затым да верхняй роўніцы самалёта і апошні ляціць разам з ім.

---

*) Плоскасьць.

## Шасьціножкі—асілкі.

Аднэй з самых дужых шасьціножак зьяўляецца жук Геркулес, які жыве ў зваротніках. Ён важыць 6 грамаў і вытрымлівае на сьпіне цяжар у 2 кілёгр. г. з., амаль у 350 раз больш за ўласную вагу. Каб зраўнацца з гэтым жуком, чалавек павінен быў-бы несьці на сьпіне таварны вагон з грузам, вагою каля 22 тон.

Самыя слабасільныя шасьціножкі могуць пераносіць цяжары ў пяць раз цяжэйшыя за ўласную вагу.

Блыха скача ў вышыню да 30 см., г. зн., прыблізна ў 100 раз вышэй за свой рост. Каб зраўняцца ў здольнасьці скакаць з гэтай шасьціножкай, чалавек павінен быў-бы пераскочыць праз вялізны 50-павярховы будынак у 150 мет. вышынёю.

Майскі жук цягне вапрашку з грузам у сто раз цяжэйшым за яго самога. Чалавек з гэткай сілай мог-бы цягнуць павозку ў 10 тон вагою.

---

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Файтліну Ф.**—Допіс „Ну што будзе?“—ня пойдзе. Перадай на абгаварэньне фарпоста. „Ня ведаю ці піонэр я“—зьмясьці ў насьценнай газэце.

**Златкіну С.**—У сваім допісе „Без дапамогі шэфа організуйце майстэрні“ ты пішаш аб тым, што трэба рабіць. Такі допіс няцікавы. Трэба напісаць, як праводзілася гэта работа вамі.

**Пракопаву Ш.**—„Як я стаў піонэрам“ ня пойдзе. Нічога цікавага. Такім парадкам кожны ў піонэры ўступае.

**Сянькоўскаму У.**—З допіса „Глядзяць скрозь пальцы“ відаць, што вы на сходзе атраду ня ставілі гэтага пытаньня. Пастаў яго на сходзе атраду, А ў часопісі зьмяшчаць ня варта.

**А. Н.** (Капыль).—У сваім допісе „Адзін ня воін“ ты пішаш, што ў вашай сямігодцы ідзе вельмі кепска справа з пашырэньнем падпіскі на часопіс „Беларускі Піонэр“. Кепска тое, што ты ня ўзьнімаў гэтага пытаньня на фарпосьце. Папрабуй спачатку дагаварыцца з фарпостам і вучкомам, каб яны правялі належную кампанію.

**Цыцэркіну П.**—„Праца піонэра ў сям'і“ ня пойдзе. Кожны ведае, што трэба рабіць. Цікавей-бы было, каб ты напісаў, як ваш атрад працаваў у сям'і.

**Шарупічу Б.**—Калі ў вас некаторыя піонэры маюць гальштукі, але ня носяць, дык аб гэтым можна напісаць у насьценную газэту альбо паставіць пытаньне на сходзе атрада ці зьвяна, і там абгаварыць.

**Есьману Я.**—Допіс „Наш атрад“ ня пойдзе. Ён падобен на справаздачу. Будзе няцікавым для чытачоў.

**Чэрчаса**—Верш „Чатыры гады“ напісаны дрэнна. Просты набор слоў. У часопісі зьмешчаны ня будзе.

**Е. В.** (Царкоўе)—Тваё допісы „Аб шэфстве і конкурсе“ атрыманы. „Аб конкурсе“ скарысталі, а „Аб шэфстве“—факт дробны. Лепш зьмясьці ў насьценнай газэце.

**Аёла Н.**—Ты пішаш аб пашырэньні „Беларускага Піонэра“, але з допіса ня відаць, што-ж ваш атрад канкрэтна зрабіў.

**Ліпеню**—З твайго допіса „Наладжваецца праца“ ня відаць, якія-ж канкрэтныя дасягненьні ў рабоце мае ваш атрад. Аб іх трэба напісаць, а ня пісаць агульнымі словамі, што ў вас усё добра. З гэтых слоў яшчэ ня відаць вашых дасягненьняў. Допіс зьмешчаны ня будзе.

**Савету атрада.**—Допіс „Атрад за працай“ зьмешчаны ня будзе. Падобны на справаздачу. Напішаце пра асобныя моманты работы атрада, як, напрыклад, работу бібліотэкі. Для другіх будзе цікавым якім парадкам вы сабіралі грошы, набылі 200 кніжок. і як іх скарыстоўваеце ў рабоце свайго атрада.

**Шамуку Я.**—Допіс „Атрад Сакко і Ванцэці“ зьмешчаны ня будзе. Папробуй напісаць аб адным моманце работы, а не старайся закрануць усе галіны работы, вось чаму гэты твой допіс і зьяўляецца агульным і зьмешчан быць ня можа.



Цана 12 кап.




**Задача складоў.**

*(Дз. Міхалка)*

Пераставіць склады ў клетках так, каб можна было прачытаць зьлева—направа і зьверху ўніз адны і тыя-ж тры словы.

| | | |
|---|---|---|
| та | са | ры |
| ла | та | та |
| та | па | ла |

**Задачы—жарты.**

1. Нам дадзены два лікі: 2 і 3. Які знак трэба паставіць між імі, каб атрымаўся новы лік—большы 2-х і меншы 3-х?
2. Як напісаць лік 31 пры дапамозе 6-ёх троек?
3. Колькі важыць пуд жывой рыбы і пуд няжывой?
4. Каб запаліць адну сьвечку, трэба патраціць адну запалку; колькі патраціцца запалак на тое, каб запаліць 2 сьвечкі?

## Жарты

**„Зьвярына"**

— Якая зьвярына прывязваецца да чалавека найбольш?—пытае настаўнік.

— Камар,—адказвае вучань.

**Здагадаўся**

— Чаму зімой на двары холадна, а ўлетку не?—пытаецца настаўнік.

— Чаму?.. Таму, што зімой усе шчыльна хаты зачыняюць, каміны затыкаюць, дык дух ня можа на двор выйсьці, а ўлетку—наадварот.

**Распытаўся**

— Скажы, будзь ласкаў, кум, што вы сваёй карове давалі, калі яна захварэла?

— Тоўчанае шкло.

— Ага... Дзякую.

Праз некалькі дзён зноў кумы спатыкаюцца.

— Бадай цябе, куме, з тваёю радаю—прапала мая карова!

— А хіба-ж ты думаеш, што і мая не прапала? Здохла й мая, — кажа той.

— А чаму-ж ты мне не сказаў, што ад шкла карова здохла?

— А хіба-ж ты аб гэтым пытаў?

**Не маеногі**

Сярод гаю на траве,
На мурожыстым пакосе,
Лёг у ботах чалавек,
А прачнуўся босы.
Вось устаў ужо нябога,
Разоў колькі пазяхнуў,
Разоў колькі свае ногі
Ад зьдзіўленьня павярнуў.
—„Не мае-то,—кажа,—ногі,
Прысягаю хоць-бы што там!
Бо мае былі у ботах,
Ну, а гэтыя бяз ботаў"...

**Як ён хадзіў?**

Паштальён павінен разьнесьці па гораду лісты у 20 дамоў, не праходзячы двойчы па адной і той самай вуліцы.



Адкуль ён павінен пачаць ісьці і ў якім парадку заходзіць у дамы.

1-ая друкарня БДВ. Заказ № 1543. У ліку 3.150 экз. Галоўлітбел № 742.